© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

31 снежня 1997 года
СЕРАДА
№ 79—80
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## ШЧАСЦЯ, ЗДАРОЎЯ І ЗГОДЫ ВАМ, ЛЮДЗІ!

*Складаныя, супярэчлівыя пачуцці выклікае год, з якім мы развітваемся. На жаль, ён не вырашыў нашы праблемы. Цэлы год нам назойліва ўнушалі, што «жыць стала лепей, жыць стала весялей», але кожны з нас адчувае па свайму сямейнаму бюджэту, што гэта не адпавядае сапраўднасці.*

*Што мы маем на сённяшні дзень? Толькі за 1995-96 гады рост спажывецкіх цэн у Беларусі склаў 380 (!) працэнтаў. Страты насельніцтва ацэньваюцца ў 4,6 трлн. рублёў. Агульныя страты эканомікі — 8,9 трлн. Інфляцыя вырасла з 152,7% у 1996 годзе да 165-ці — у адыходзячым. Тым не менш, вывады ніякія не робяцца. На будучы год прыняты бюджэт краіны, які выклікае масу пытанняў. Вось адзін маленькі, але характэрны прыклад. Дзяржаўнае льготнае жыллёвае будаўніцтва запланавана куды ў меншым аб'ёме, чым затраты на ўтрыманне Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ).*

*Няма сэнсу напярэдадні свята пералічваць усё тое, што псавала нам настрой, выводзіла з раўнавагі. Жывецца ўсё цяжэй, значыць, нешта робіцца не так, няправільна. Усе мы гэта разумеем, а сказаць не можам. Ну, а хто адважыцца раскрыць рот, яго адразу ж ахрысцяць апазіцыянерам, ворагам, могуць пазбавіць волі. Судовы канвеер, у адрозненне ад заводскіх, працуе спраўна, без перабояў.*

*Яшчэ адзін чыста жыццёвы штрых: што на нашым навагоднім стале? Не надта раскошны набор, які збіраўся на працягу месяца-два. Магчыма, многае ў новым годзе знікне, стане для нас недаступным. Што-што, а цэны нашы ўлады ўмеюць «рэгуляваць».*

*Але што гэта мы зноў пра сумнае, пра хаос і змрок. На парозе ж — Новы год, які заўсёды нясе з сабой надзеі і спадзяванні на лепшае. Хай ён надасць нам сіл, мудрасці і цярплівасці, каб уладкаваць сваё жыццё, зрабіць яго дастойным для кожнага чалавека. «Возьмемся за руки, друзья, чтоб не пропасть поодиночке!» Хай гэтыя словы паэта, сказаныя ў іншыя часы і па іншай прычыне, засвецяцца нам пуцяводнай зорачкай на небасхіле наступаючага 1998 года.*

*Будзем жыць, сябры! Жыве Беларусь! З Новым годам!*

## З НОВЫМ ГОДАМ!

**З Новым годам,**
**з Новым годам!**
**З новай песняй,**
**з новай казкай!**
**Зачаруем**
**мімаходам**
**Долі ходы**
**думкай-краскай!**
**Кінем покліч**
**гулказвонны**
**Ад аконца**
**да аконца,**
**Свет паклічам**
**мёртвасонны**
**Аж да сонца,**
**аж да сонца!**
**Для ўнукаў,**
**для праўнукаў**
**Расцярэбім**
**сцежкі-шляхі;**
**Хай пануюць**
**над прынукай —**
**Каб аж к небу**
**лёту ўзмахі!..**
**Над зямлёй**
**зардзіць вясёлка**
**После бураў,**
**ліхалеццяў;**
**Бацьку, маці**
**жыць нялёгка, —**
**Хай жа лёгка**
**жывуць дзеці!**
**З Новым годам,**
**што крыніцай**
**Новай пойдзе**
**ў пераходзе,**
**Беларуская**
**зямліца!**
**Беларускі**
**наш народзе!**

*Янка КУПАЛА.*

## У ЛЕСЕ НАРАДЗІЛАСЯ ЁЛАЧКА

Многае змянілася ў нашым жыцці, аднак дзеці засталіся самай кансерватыўнай часткай грамадства. Яны, як і іхнія бацькі і бабулі 30—40 гадоў таму, водзяць карагоды вакол ёлкі і спяваюць старую добрую песеньку «У лесе нарадзілася ёлачка».

Ёсць ёлачкі, якія растуць у лесе самі па сабе. Тыя ж, што прызначаны для свят, растуць пад наглядам чалавека. Ён стараецца рабіць усё, каб зялёная прыгажуня была стройнай і пушыстай. І для гэтага падбірае ёй бацькоў. Толькі прамым, высокім ёлкам з густой кронай даецца права ўзнаўляць сабе падобных.

Насенне, узятае з хваёвых шышак, высяваецца на спецыяльных плантацыях. У Івацэвіцкім лясгасе, напрыклад, для гэтых мэт штогод адводзіцца па два гектары. На працягу года людзі сочаць за тым, каб крохкія парасткі ніхто не пакрыўдзіў. Таму вырываюць з зямлі ўсялякія пабочныя расліны. Ёлачкі растуць, набіраюцца моцы 7—10 гадоў. Пасля гэтага тэрміну яны гатовыя апрануць навагодні ўбор. Ёлачкі высякаюць, грузяць на грузавікі і вязуць на продаж. 6 тысяч івацэвіцкіх ёлачак цяпер купілі брэстаўчане, 5 тысяч — жыхары Івацэвічаў. Летась было прададзена больш: 13 тысяч зялёных прыгажунь пакінулі заснежаныя лясныя ўгоддзі і перабраліся ў кватэры.

Ёлка — гэта тавар. Кошт яе залежыць ад вышыні. Калі вырасла яна невялікай у 1—2 метры, дык і цана невялікая — 25 тысяч рублёў. 2—3-мятровая ацэньваецца ў 30 тысяч, 3—4-мятровая — у 35 тысяч. Ну, а калі ёлка вымахала ў 5—10 метраў, каштуе яна 65 тысяч рублёў. Попыт на такія веліканы невялікі, ставяць іх звычайна ў вялікіх залах ці на плошчах. Упаўне магчыма, што міма іх у свой час прабягалі ваўкі, а пад імі хаваліся зайцы.

Вось такі празаічны шлях ёлкі да чалавека, да дзіцячых карагодаў.

Усю праўду, як ёлка трапіла на свята, няхай ведаюць дарослыя. А для дзяцей ведаць мо і не трэба,няхай гэта будзе ахутана таямніцай. Як і тое, калі кладзе пад яе св-е падарункі Дзед Мароз — дзядуля шчодры і ўсемагутны.

Калі закончацца навагоднія ўрачыстасці, прыгажуні ёлкі паблякнуць, не вытрымаўшы ўсеагульнага захаплення. Іх зорны час непрацяглы — 2—3 тыдні. Засохлыя іголкі пачнуць ападаць з паніклых галінак і засмечваць усё навокал. Такі ўжо лёс, лёс навагодняй ёлкі. Дзесяткі нязграбных ёлачак з рэшткамі ваты і бліскучага серпанцінy апынуцца ў нашых дварах і на сметніку. Такую раскошу мы яшчэ можам сабе дазволіць...

*Л. САШЫН.*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020








*А. А. ГРУЗДЗЕЎ, дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства «Івацэвіцкі малочны завод»*

Па добрай традыцыі мы штогод праводзім мінулы і сустракаем Новы год. Аглядваючыся на пражытае, ацэньваем зробленае, узважваем свае магчымасці. Калі сказаць шчыра, то 1997 год увогуле для калектыву быў даволі спрыяльным, хаця і не лёгкім. Усё давалася з вялікай цяжкасцю. Таму сёння вельмі прыемна, што нашы намаганні не прапалі дарма.

Наша вытворчасць пашыраецца, расце яе магутнасць. Сёлета і малака закупілі больш леташняга. Павялічыўся попыт на фасаваную прадукцыю. Малака выпусцілі ў паўтара, смятаны – у тры, кефіру – у 2,4 раза больш, чым летась. У паўтара раза павялічылі выраб казеіну. Ён нават пастаўляецца ў блізкае і далёкае замежжа.

Акрамя казеіну, вырабляем чатыры новыя віды прадукцыі. Гэта масла сялянскае і шакаладнае, сыр дыетычны і ацыдафілін. Як пацвердзілі спецыялісты, ацыдафілін вельмі карысны для прафілактычнага і лячэбнага харчавання дзяцей і дарослых.

Наладзілі таксама выпуск маслянкі і сыроваткі ў пакетах. Але на гэтую прадукцыю няма попыту, таму нявыгадна стала выпускаць яе.

Стабільная работа завода дазволіла нам своечасова разлічвацца з гаспадаркамі за атрыманую сыравіну. А гэта гарант таго, што мы не згубім сваіх пастаянных пастаўшчыкоў малака. Мы маглі б працаваць і лепш, але нармальнай дзейнасці прадпрыемства перашкаджае незразумелая цэнавая і падатковая палітыка. Па сутнасці мы не можам самі прадаваць сваю прадукцыю, акрамя казеіна, за межы рэспублікі. Многа працуем на пустыя страты ад таго, што штучна стрымліваюцца цэны.

Што прынясе нам новы, 1998 год, сказаць цяжка. Але мы маем намер працаваць у тым жа рытме і даваць людзям патрэбную прадукцыю. Ужо недалёкі той дзень, калі ў гандлёвую сетку мы будзем пастаўляць масла фасаванае, сыркі тварожныя, слукі 10-працэнтныя ў пакетах.

Усё, што намі ўжо дасягнута і што яшчэ прыйдзецца зрабіць, справа рук нашых рабочых, спецыялістаў. Вялікі дзякуй ім за старанную працу, за пастаянныя клопаты аб развіцці вытворчасці. Усіх, вядома, не пералічыш, але ж некаторых назаву. Гэта апаратчыцы Надзея Аляксандраўна Куіс, Зоя Міхайлаўна Ерамейка, Святлана Аляксандраўна Бажыдай, слесар кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі Алег Міхайлавіч Багдусевіч, слесар-рамонтнік Мікалай Іванавіч Жук і многія іншыя.

Жадаю ўсім нашым працаўнікам моцнага здароўя, асабістага шчасця, добрых надзей і спадзяванняў у 1998 годзе. З Новым годам, сябры!



*Валянціна СКОЦ, жыхарка вёскі Гошчава Івацэвіцкага раёна*

Хачу адзначыць, што 1997 год быў для нашай сям'і даволі цяжкі. Я сама вырасла ў мнагадзетнай сям'і. І так сталася, відаць па наследству, што і ў мяне сям'я вялікая – пяцёра дзяцей. Трое яшчэ школьнікі. Старэйшая дачка Таня скончыла 11 класаў Гошчаўскай СШ, а затым Брэсцкае медыцынскае вучылішча. Працуе ў Касаўскім псіха-неўралагічным інтэрнаце. Выйшла замуж. Сёлета нарадзілася ў яе дачушка Яначка – мая першая ўнучка.

Дачка Света пасля дзевяці класаў пайшла вучыцца ў Кобрынскае вучылішча тэкстыльшчыкаў. Праз паўгода ўжо закончыць яго.

Адна радасць у мяне – дзеці. І паслухмяныя, і працавітыя. Хвалююся за тое, каб толькі былі здаровенькімі.

Разам з мужам працуем у калгасе імя Леніна. Я – даяркай, ён – дагляддчыкам жывёлы. Трохі зарабляем. Праўда, зарплату своечасова не даюць. І дапамогу на дзяцей не атрымлівалі ўжо некалькі месяцаў. З зямельнымі надзеламі ў нашым калгасе творыцца нешта незразумелае. Калі ў сям'і чацвёра дзяцей, то выдзяляюць сорак сотак зямлі. Столькі ж даюць, калі адно дзіця. Ніхто не глядзіць, што сям'я мнагадзетная.

Не сакрэт, жыць стала цяжка. Выручае тое, што ёсць свая гаспадарка. А так бы сядзелі на галодным пайку. На Новы год чамусьці спадзяванняў мала. Усё на вачах даражэе, а дзе тых грошай набярэшся?

У чэрвені закончыць сярэднюю школу дачка Наташа. Хацелася б уладкаваць на вучобу, каб спецыяльнасць набыла, бо гэта ў жыцці многае значыць.

Як мнагадзетная сям'я раней былі запісаны ў чарзе на ўстаноўку тэлефона, а потым знялі з чаргі. Ніякіх ільготаў. Няма ў нашым доме і радыё (вуліца, праўда, новая). У сувязістаў няма дроту для праводкі.

Побач з намі праходзіць нітка газаправода. Але да нас не падведзены газ, і, відаць, не хутка будзе.

І яшчэ адна не зусім радасная навіна. Калгасную кацельню, якая абагравае і наш дом, перадалі камунгасу. І нам ужо сказалі, што павысіцца плата за ацяпленне.

Можа ў надыходзячым годзе штосьці зменіцца ў лепшы бок і з тэлефонам, і з радыё, і з ацяпленнем? Застаецца чакаць і спадзявацца.

❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄

*Ганна ЁВІК, інвалід I групы, жыхарка г. Івацэвічы*

Чым запомніўся 1997 год? Дзівосамі. Палітычнымі і эканамічнымі. Амаль штодзённымі новымі цэнамі. Пагалоўнай людской незадаволенасцю сваёй зарплатай.

Прыемнае чаргавалася з непрыемным, радасць са смуткам. Брэсцкае аддзяленне Беларускай чыгункі мне як інваліду, страціўшай ногі падчас рабочай змены, выдзеліла аўтамабіль. Яму патрэбен гараж. Здзівіла мясцовая ўлада, якая не змагла мне нічым дапамагчы. Толькі пасля звароту да Прэзідэнта чыноўнікі зашавяліліся і станоўча рашылі маё пытанне. Даручана ўстанове УЖ 15/5 дапамагчы мне ва ўзвядзенні гаража. Дзякуй за гэта.

Год адыходзячы стаў апошнім у жыцці майго роднага брата. Балюча, што ён пайшоў ад нас. Страта вялікая і хай іх будзе ў нас як мага менш.

Вельмі хацелася б, каб людзі не развучыліся працаваць і рабіць дабро іншым. Каб не азвярэлі ад нястачы і «рынкавага сацыялізму». Каб беларуская дзяржава паступова займала сваё пачэснае месца ў свеце. Народ наш гэта заслужыў стагоддзямі рабскага жыцця пад пятой прыгнятальнікаў. Будзе жыць Беларусь – будзем жыць і мы. Каб толькі мае словы – ды Богу ў вушы.

❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄

*Мікалай СІНКЕВІЧ, настаўнік Першамайскай СШ Бярозаўскага раёна*

Чым мне запомніўся мінулы год? Перш за ўсё няздзейсненымі пажаданнямі з года 96-га. Усе надзеі і спадзяванні на нейкае паляпшэнне развеяліся, як ранішні туман, і мы апынуліся перад жорсткай, халоднай рэчаіснасцю. Цэны працягвалі свой «палёт». Ва ўсіх сферах жыцця найбольш характэрнай з'явай стала стагнацыя: у эканоміцы, медыцыне, адукацыі і г. д. Але горш за ўсё, што яна ахапіла і душы людзей. У грамадстве паралельна с ростам агульнай няўладкаванасцю назіраецца і рост зла, нянавісці, нецярпімасці.

Што пажадаць на 98-ы год? Хачу пажадаць усім чытачам «Газеты для вас» таго, чаго калісьці так жадаў сабе цар Саламон – мудрасці. Бо над мудрым чалавекам няўладныя ні эканамічныя, ні палітычныя ўзрушэнні, яго не зломяць жыццёвыя буры і ўдары лёсу, ён ніколі не запэцкае сваю душу ў бруд і ў любых абставінах застанецца чалавекам. Яшчэ хачу пажадаць здароўя і шчасця, а ўсё астатняе, як кажуць, дадасца. Азірніцеся навокал, усміхніцеся. Жыццё працягваецца! І гэта галоўнае.



*Заместитель председателя исполкома Барановичского районного Совета Леонид Иванович Хреновский прошел путь от сельского специалиста до этой высокой должности. Его, как бывшего директора совхоза, инструктора, управляющего делами исполкома, знает, пожалуй, каждый житель Барановичского района.*

*Опытный специалист, общественный деятель, он всегда с людьми, живет их заботами, сопереживает их печали и радости. В канун Нового Года Леонид Иванович, среди других неотложных дел, вручает памятные медали имени Маршала Георгия Жукова. На снимке запечатлено это торжественное мгновение: ветеран сельского хозяйства, один из старейших председателей колхозов в районе Георгий Владимирович Козляк получает награду и принимает самые искренние пожелания счастья, здоровья, благодарность исполкома за труд от Леонида Хреновского (на снимке справа).*

*Здесь, в красном уголке колхоза «Победа», Леонид Иванович передал читателям «Газеты для вас» свои новогодние поздравления.*

❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄❄

## ЗДРАВСТВУЙТЕ, УВАЖАЕМЫЕ ЧИТАТЕЛИ «ГАЗЕТЫ ДЛЯ ВАС»!

Уже несколько месяцев жители Барановичей и района читают еще одно печатное издание «Газету для вас». Она удачно вписалась в ряд местных газет «Наш край», «Интекс-пресс», «Шаг» и успешно снабжает нас разнообразной, интересной, полезной информацией о трудовой и общественной жизни Ивацевичского, Березовского и Барановичского районов и их городов-центров. Газета сблизила нас. С ее помощью мы учимся друг у друга преодолевать трудности, выявлять и внедрять лучшие методы хозяйствования.

Нелегко сейчас белорусскому народу, строящему новую жизнь. Друзья близкие и дальние помогают добрым советом, прямым своим участием в наших делах. Недруги пытаются навязать свои идеи, чуждые нам экономические методы, политические взгляды. Но мы уверенно идем своим путем, это приносит успехи.

Труженики города и района выполнили задание по производству промышленной и сельскохозяйственной продукции. Более того, многие изделия барановичских предприятий удостоены международных призов и дипломов за высокое качество, отличную систему хозяйствования. Это признаки, подтверждения того, что мы избрали верную дорогу развития экономики, повышения жизненного уровня каждого жителя Беларуси.

От имени тружеников Барановичского района, города Барановичи от всего сердца поздравляю вас, дорогие читатели «Газеты для вас», с Новым , 1998 годом! Желаю здоровья, счастья, успехов в работе, в делах личных!

*С глубоким уважением, Леонид Хреновский, зам. председателя исполкома Барановичского районного Совета депутатов.*

## КОЛЬКІ НАС І ХТО МЫ?

| | Івацэвічы | Бяроза | Баранавічы |
|---|---|---|---|
| **Усяго насельніцтва** | **67.800** | **75.900** | **223.900** |
| у тым ліку: | | | |
| рабочых | 6.646 | 7.000 | 32.278 |
| калгаснікаў | 8.250 | 4.400 | 10.620 |
| служачых | 8.597 | 2.500 | 39.450 |
| беспрацоўных | 656 | 650 | 800 |
| школьнікаў | 11.023 | 12.304 | 35.120 |
| пенсіянераў | 19.470 | 18.788 | 30.000 |
| інвалідаў | 1.958 | 3.026 | 6.480 |
| моладзі (да 28 гадоў) | 25.764 | 26.300 | 85.380 |
| транспарт | 649 | 540 | 11.073 |
| народная адукацыя | 1.500 | 3.000 | 5.703 |
| ахова здароўя | 1.290 | 1.800 | 4.616 |
| гандаль | 1.832 | 1.700 | 3.496 |
| сувязь | 365 | 380 | 945 |
| культура | 400 | 380 | 602 |
| прадпрымальнікі | 367 | 500 | 3.670 |
| фермеры | 14 | 47 | 25 |

❄❄❄❄❄❄❄❄

*САЛЁНЫ, бомж*

Ну, бомж я, бомж! Спадабаецца гэта каму ці не, мне да фені. Бо і сам я нікому не спадабаюся і ніякай вашай статыстыцы не падпарадкоўваюся. Я нават імя сваё сапраўднае сам забыў. І кожны год пасля таго, як страціў сям'ю і работу, падобны адзін на другі. Зіма, бр-р, холадна і галадна. Вясна – справа весялей. Летам і восенню – зусім добра. Вітаю базары – на іх можна пажывіцца. Як? Ды проста выпрасіць нешта, украсць, калі хочаце. Носам круціце, грэбуеце! А за два мільёны ў месяц спіну гнуць на дзяржаву ды тоўстых начальнікаў у мяккіх крэслах не грэбуеце? Дома капейкі лічыце, а калі вам зверху ўладны дзядзька гаворыць, што жывяце лепей за ўсіх, у ладкі пляскаеце. Ну, дык жадаю і далей такога ж паляпшэння...



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



Жыў-быў адзін чалавек. Звычайны грэшны чалавек – добрае і кепскае ў яго характары нібы лыжкай было перамешана. Бог і здольнасцей яму крыху даў, але ў свой час не схацелася чалавеку іх развіваць, на вучобу час траціць. Прачытаў ён адну-дзве кніжкі і вырашыў – хопіць. Пра выпадку ды вучонай бяседзе за чаркай можна вытрымкі то з адной, то з другой прыводзіць ды суразмоўцу ўражваць. А да выпіўкі ён быў такі ж ласы, як і да чужых жанчын...

Было ў чалавека і хобі – на сходах выступаць ды і ў любы момант з мухі слана раздуць і спрэчку распаліць. І так любіў ён гэту справу і такім майстрам яе лічыў сам сябе, што нават не раіў нікому з ім у спрэчкі ўступаць, бо ўсё роўна ён пераможцам выйдзе. Як гэта ў яго атрымлівалася? Ну, напрыклад, так. Жонка кажа:

— Будзеш сёння грэцкую кашу з малаком есці...

А чалавек у адказ:

— Грэ-эцкую? Яшчэ чаго прыдумала. Не буду.

— Чаму гэта? Я ем, а ты – не будзеш? Смачная яна, каларыйная...

—Эге, смачная, каларыйная... Але як ты яе называеш? Грэцкая! Яшчэ хто падумае, што мы на Захад с табою глядзім, усё чужое, капіталістычнае любім...

— Ой, не пляці лухты. Усе ж гэту кашу ядуць і грэцкай называюць...

— А я сказаў: кашы з паганай капіталістычнай назвай есці не буду!

Жонка сумелася:

— Ну, дык еш крупнік з малаком!

— Вось так бы і адразу сказала. А то спрачацца са мною ўздумала...

Ці вось другі прыклад непераможнасці нашага героя. Працаваў ён на заводзе (праўда, нядоўга – эге, знайшлі дурня ўкалываць!), дык на сходах быў нязменным прамоўцам. Пачынаў прамову звычайна з салёнага анекдота, закавырыстага такога. Потым кіраўнікоў за[illegible]да крытыкаваў, усіх агулам ва ўсіх бедах абвінавачваў, а калі хто з апошніх заклікаў яго гаварыць канкрэтна, па-дзелавому, ён асаджваў безадказным метадам. Задаваў, напрыклад, таму кіраўніку такое пытанне:

— А вы ведаеце колькі на заводзе пустабрэхаў працуе?




І, не робячы паўзы, сам жа адказваў: «Не ведаеце». Калі ж кіраўнік не здаваўся і настойваў на дзелавой размове, чалавек выкарыстоўваў непераможную зброю. Ён пытаўся:

— А мо вы ведаеце, як нашай суседцы Эстоніі пазбегнуць падзелу на бедных і багатых? Не ведаеце! Дык мо ведаеце, як у Беларусі камунізм пабудаваць? І гэта не ведаеце! Тады я саджуся...

І з пераможным выглядам,пад смех і рэплікі з месцаў садзіўся. На рэплікі, як і на патрабаванні гаварыць канкрэтна, ён і ўвагі не звяртаў. Тым не менш, аднойчы яны запалі яму ў галаву.

— От, Шарыкаў, от, зямлю задняй нагой драпаць любіць, — пачуў ён аднекуль збоку.

— Ды гэта ўжо не Шарыкаў. Гэта – ужо сапраўдны Швондзер,— са смехам адгукнуліся з сярэдзіны залы.

Прыйшоў тады чалавек дахаты і запытаўся у жонкі:

— Слухай, ты не ведаеш дзе Шарыкаў з Швондзерам жывуць?

— Ты што, мяне за дурачку трымаеш? — адказала тая. – Думаеш, я забылася пра тэлефільм «Сабачае сэрца», дзе Шарыкаў і Швондзер галоўнымі героямі былі... Ну, кніга, гавораць, яшчэ такая ёсць — «Сабачае сэрца». Па ёй жа і фільм пастаўлены...

Пабег тады чалавек · бібліятэку, знайшоў аповесць М. Булгакава «Сабачае сэрца», пачытаў крыху і забурчэў:

— З Шарыкава яны смяюцца! Каб усе такую эвалюцыю прайшлі – ад валацужнага сабакі да начальніка пададдзела. Пра Швондзера наогул размова кароткая – чалавек свайго ён рэвалюцыйнага часу...

І ён успомніў, што і наш час таксама рэвалюцыямі рознымі грашыць. Хіба ў Белавежскай пушчы не контррэвалюцыянеры напаскудзілі, хіба з-за бугра пузатыя мільянеры-капіталісты на Беларусь зубы не точаць? У такой абстаноўцы кожны смелы чалавек павінен не толькі зямлю задняй нагой драпаць, але ў першыя шэрагі барацьбітоў стаць. Вось толькі прозвішча, што ад бацькоў дасталося, змяніць бы трэба. Нягучнае яно нейкае. Зрэшты, Шарыкаў таксама з імя ды прозвішча пачынаў – «пропечатал» яго ў газеце і атрымалася Паліграф Паліграфавіч Шарыкаў. Гучыць! Незвычайна, смела і арыгінальна.

І тут чалавек стукнуў сябе па ілбе. Шарыкаў сабе якае прозвішча ўзяў? Спадчыннае. А ў мяне, якая спадчына? Канаўка, што па п'янай справе забрыдаю? А няхай сабе і канаўка. Затое імя такое сабе бяру – завідкі любога возьмуць. Полтэргейст. От, цяпер хай нехта скажа, што ў мяне галава не варыць: Полтэргейст Канаўка – гэта ўжо імя!

І усё пайшло ў Полтэргейста Канаўкі нібы па маслу. І ў газеце ён сваё імя «пропечатал», і з завода звольніўся ды ў такую фірму на работу ўладкаваўся, дзе не надта галавой трэба думаць, бо вышэйшыя начальнікі ўжо ўсё даўно абдумалі, нават тое, як камунізм у Беларусі пабудаваць. І праз некаторы час свайго новага калегу па працы падседзеў, увёўшы ў вушы начальніку фірмы Касенькаму, што гэты калега ужо з раніцы выпіваць пачынае і яго, Канаўку, зманьвае. І аб самім Касенькім у вышэйшых начальнікаў у Высокім Доме такое слоўца закінуў, каб яны мацней думалі: маўляў, Касенькі-шэранькі, у нагу з часам не ідзе, як фірму вывесці ў перадавыя не ведае. І што ўжо соладка Канаўцы – каханку завёў, каб было дзе душу адвесці.

І вось тут грымнуў гром. Гары яны гарам, гэтыя каханкі, дорага яны каштуюць! Заспаўся аднойчы Канаўка ў прыемнай жанчынкі: крыху выпілі з ёю лішняга. Раніцай прахапіўся а палове дванаццатай гадзіны і за галаву цяжкую схапіўся: Касенькі ж у ад'ездзе, а яго замест сябе пакінуў. Як даведаецца, што работа стаіць – больш да руля не дапусціць.

Але першай вэрхал жонка ўзняла: усіх знаёмых абабегала Канаўку шукаючы. Прычапілася: дзе быў, што рабіў? У фірму пачала званіць, пагражаць, што і да вышэйшага начальства звернецца са сваёй крыўдай.

Да таго ж нешта такое і з Касенькім зрабілася: пачаў дапытвацца, калі і да каго у Высокі Дом хадзіў, пра што размаўляў. І так касавурыўся, так вочы ў бок адводзіў. Нават нешта мармытнуў, што шкадуе, што Канаўку на работу ўзяў...

Стрэс дый годзе! Ды і калі – перад самым Новым годам. Што рабіць – пахмяліўся Канаўка добра ды дамоў паплёўся. Ледзь парог хаты пераступіў – жонка загаласіла:

— Жыць не буду, выбірайся, ідзі куды хочаш... Чужыя людзі елку прывезлі... Ой-вой, сорам, сорам...

— Сорам табе? — грозна запытаўся Канаўка і па-гаспадарску ўсеўся за стол ля ёлкі, якую жонка ўжо упрыгожыла. – А калі я вазьму і... і... застрэлюся? Застрэлю... Застрэ...

Эх, такое цяжкае слова. Не здолеў яго трэці раз вымавіць Канаўка, бо ... заснуў. Жонка і за валасы хапала , і за плечы трэсла – сон не адпусціў змучанага Канаўку. І здалося яму, што бачыць ён самога сябе за сталом ля навагодняй ёлкі. Сядзіць гэта ён і плача: застрэліцца трэба, а пісталета няма. Дзе яго ўзяць? О, божа, дзе ўзяць?

Мо ў міліцыі? Дык ім трэба растлумачваць, навошта мне пісталет? Скажу праўду – не дадуць. Я ж – карысны для іх чалавек, неаднойчы паслугі аказваў. Што ж ім сказаць?

Мо скажу, што на вайну ў Чачню паеду, парадак там наводзіць буду. Не, не паверaць. Ды і вайна там нібыта скончылася...

Во, прыдумаў! Прэзідэнта нашага пайду ахоўваць: ворагаў жа навокал – пруд прудзі! Я ж хлопец прыткі – усіх перамагу. Але... Мо мяне да Прэзідэнта не дапусцяць, мо я яго давер яшчэ не заслужыў. Не поўнасцю сваю, як кажуць, лаяльнасць даказаў. Успомняць, як я паэму «Батяня» чытаў і крычаў на адным сходзе: «Не веру Прэзідэнту!» Пратакол жа таго схода на заводзе ляжыць. Эх-х...

І раптам Канаўку асяніла: скажу, што мадам Лабызаеву застрэлю. Ну, тую, якую ўсе ведаюць. Тоўстая такая, камандаваць усімі так хоча, так хоча. Бачыце: засталася без спонсара, а жыве. Па праўдзе, дык гэтага спонсара хочацца «аздобіць», ды рызыкаваць няма дурных, з мацнейшым звязвацца. А за мадам Лабызаеву хто заступіцца?Алё гэта – не галоўнае. Грошай у яе – мяшок. Ды не альбы якіх – зялёных. У-у, яна іх траціць направа і налева. На мерседэсе ездзіць, брэндзі папівае і сервелатам з ананасамі закусвае (ой, аж сліна пацякла...).

Вырашана – зроблена. Усхапіўся Канаўка і ў міліцыю да знаёмага маёра Хвацкага пабег. Так і так, гаворыць, мяшок зялёных да навагодняга свята здабыць можна, толькі пісталет патрэбен, каб мадам Лабызаеву застрэліць...

— Э-э, ты чаго так калоцішся, — недаверліва глянуў на Канаўку Хвацкі. – Такімі дрыжачымі рукамі пісталет не ўтрымаеш...

— Дык зялёныя! Мяшок! Хвалююся, бо гэтая таўстуха Лабызаева і за мяжу можа ўцячы...

— Зялёныя! Мяшок! Лабызаева! — перадразніў Хвацкі. – Калі меркаваць па тваіх руках, то ты заўсёды хвалюешся. Справу трэба рабіць цвердымі рукамі і з халоднай галавой. Акрамя гэтага, ты што, не ведаеш да гэтай пары: пісталеты проста,так не выдаюцца. Бяжы да свайго начальства, няхай яно якое хадайніцтва напіша. Толькі ведай: зялёныя дзяліць буду я!

Што рабіць? Вельмі не хацелася Канаўцы да свайго начальніка Касенькага звяртацца: па-першае, падазрае ён нешта, касавурыцца, ой-ой! А па-другое, калі справа выгарыць, сабе лаўры будзе прысвойваць ды і зялёнымі прымусіць падзяліцца...

Эх, было – не было: пабег Канаўка да Касенькага. Просіць: напішыце хадайніцтва, што мне можна пісталет даверыць.

— А мо ты ўжо крупніку аб'еўся, — касавурыцца Касенькі. – А мо сябе галоўным у нашай фірме ўявіў. Бач, што прыдумаў: пісталетам яго забяспеч!

— Дык жа Лабызаеву застрэлю! — аж закрычаў Канаўка. – Няўжо вы дазволіце ёй спакойна з мяшком зялёненькіх жыць?

Адразу палагоднеў Касенькі. Схапіў Канаўку за руку, з кабінета павалок.

— Сам я пытанне з хадайніцтвам вырашыць не маю права, — стаў гаварыць на хаду. – Пойдзем да вышэйшага начальніка Вайтовіча. Але вока ў яго-сакалінае. Калі ўбачыць, што ў цябе рукі дрыжаць – з кабінета нас папрэ, пісталета не даверыць. Таму адну руку хавай у кішэню, а другую, каб не дрыжэла, я трымаць буду. Толькі ведай: зялёныя дзяліць буду я!

Так, пабраўшыся за ручкі, і ўвайшлі Касенькі з Канаўкаю ў кабінет да Вайтовіча.

— Гм, а ці ўмееш ты, Канаўка, язык трымаць за зубамі, — засумняваўся Вайтовіч.—Напішу я хадайніцтва, пісталет табе даверу, а ты возьмеш і ў лістку «Гаў-Гаў» усяму свету разбалабоніш...

— Што Вы, што Вы-с, — закалаціўся Канаўка. – Як можна-с, без вашага-с дазволу. А наконт майго языка – хіба Вы-с забылі той выпадак? Ну, калі Вы-с над сваёй важнай установай сцяг уверх нагамі вывесілі? Я першы гэта ўбачыў, Вам-с падказаў, а сам нікому-с ні славечка...

— Эт, хопіць балабоніць! — адчаканіў Вайтовіч. – Час ідзе. Толькі ведайце: зялёныя буду дзяліць я!

Толькі ён гэтыя словы вымавіў, як адчуў Канаўка ў той руцэ, што ў кішэні была, пісталет! І, о дзіва, ён і не ўспомніў таго, што паўгадзіны таму збіраўся застрэліцца. Перад ім адразу ўзнікла мадам Лабызаева ў сваім раскошным кабінеце. На сценах і на падлозе дываны персідскія, люстры – нямецкія, канапы – амерыканскія. Сядзіць яна за сталом французскім, але так цяжка на яго абапіраецца, што бедны стол амаль напалову ў зямлю увайшоў. І хоць адзенне на ёй усе японскае, белае, ды сама яна яшчэ бялейшая, румяная ды ўсмешлівая.

— Ну, і што яшчэ скажаш? — пытаецца, а сама мяшок, вялікі і тоўсты такі, рукой пагладжвае.

— Развітвайся з мяшком і маліся перад смерцю!! — з прыдыханнем выгукнуў Канаўка і навёў дрыжачай рукою на яе пісталет.

— Дурачок ты, дурачок, — ласкавым голасам загаварыла мадам Лабызаева. – Хіба тыя, перад кім ты зямлю нагою драпаеш, цябе ацэняць? Ты мяне застрэліш, а яны цябе ў турму пасадзяць, каб ты пра мяшок з зялёнымі і пікнуць нідзе не здолеў. Пашкадуй жа сябе!

І нешта сапраўды запяршыла ў горле Канаўкі. Хвілінная, так мовіць, слабасць адолела. Толькі ён змахнуў няпрошаную слязу, а мадам Лабызаева тут як тут: абняла яго, да сваёй белай грудзі прыціснула і шэпча:

— Бяры мяшок з зялёнымі, нядаўна мне з-за бугра прывезлі спецрэйсам. Пералічыш ды да жонкі цягні: не ўстаіць яна перад зялёнымі, даруе табе ўсё...

І толькі ўжо хацеў Канаўка пагадзіцца з ёю ды мяшок на спіну ўзваліць, як убачыў, што мадам Лабызаева яго пісталет сабе за пояс затыкае і некаму ў калідоры ўсміхаецца і вокам падміргвае...

— Эге, праклятая буржуйка, усіх падманула і паразганяла, а мяне табе не ўдасца вакол пальца абвесці, — падумаў Канаўка і з усёй сілы закрычаў:

— Хабар! Яна дае мне мяшок зялёных у якасці хабару!

І тут жа з калідора ўбеглі міліцыянеры і надзелі мадам Лабызаевай наручнікі.

— Будзеш у якасці галоўнага сведкі, — сказалі яны Канаўцы. – Збірайся, у суд едзем.

І вось заводзяць усе яны мадам Лабызаеву ў суд, а там ужо на першай лаве сядзяць вышэйшы начальнік Вайтовіч, маёр Хвацкі і Касенькі.

—Так, — гаворыць суддзя, — суд будзе скоры і правы, па ўсіх правілах нашага гістарычнага часу. Мадам Лабызаева! Прызнавайцеся: якую прадукцыю выпускае ваша фірма?

— Праспекты, грамадзянін суддзя.

— Якія яшчэ такія праспекты?

— Ну, на якіх напісана: «Жыве Беларусь!» Толькі і ўсяго.

— Толькі і ўсяго? А мяшок гэты тоўсты адкуль узяўся?

— А хто яго ведае! Людзі кажуць, што гэта яго Полтэргейст Канаўка надзьмуў...

— Не верце, не верце ёй! — ускрыкнуў Канаўка. — Яна каго хочаш вакол пальца абвядзе. Клянуся: гэты мяшок з зялёнымі, спецрэйсам з-за бугра прывезены!

— Ну, дык развязвай мяшок! — загадаў суддзя Канаўцы.

Скокнуў Канаўка да мяшка, за шнурок пацягнуў, а адтуль – моцны струмень паветра. Пшы-пшы-пшы і – няма тоўстага мяшка.

— Падманула, — заплакаў Канаўка і да дзвярэй наўцёкі кінуўся.

— Назад, пустабрэх, — грозна выгукнуў суддзя, а міліцыянеры схапілі Канаўку за каўнер і побач з Касенькім пасадзілі. – Усім устаць! Аб'яўляю прыгавор: за спробу дачы хабару, а таксама за ашуканства выслаць мадам Лабызаеву на Салаўкі на пажыццёвае [illegible]яволенне.

—За што? — сумелася мадам Лабызаева. – Яны ж мяне застрэліць хацелі. Во – і пісталет іх тут...

— За неэфектыўнае выкарыстанне зброі засудзім усіх не зважаючы на займаемыя пасады, — працягваў гучна суддзя. – Маёр Хвацкі! Вы прагаворваецеся да расстрэлу...

Маёр страціў прытомнасць і ўпаў на падлогу.

— Вышэйшы начальнік Вайтовіч! Вы прыгаворваецеся да 25 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці...

Вайтовіч страціў прытомнасць і ўпаў на Хвацкага .

— Хто там у нас наступны? А, Касенькі! Гм, Касенькі... А даць яму добрага ляшча пад зад...

— Згодзен, згодзен! — ускрыкнуў Касенькі.

— Ціха! — прыкрыкнуў суддзя. – За непавагу да суда і размовы ў зале ўсё астатняе жыццё будзеш хадзіць у падначаленых у Канаўкі...

— Згодзен! — ускрыкнуў Канаўка.

— Ціха!! — ужо зусім раззлаваўся суддзя. – За непавагу да суда і пустыя размовы прыгавор у адносінах да Касенькага выканаць Канаўцы. Зараз жа!

— Ёсць! — ускрыкнуў Канаўка і з усёй моцы ўдарыў нагою пад зад Касенькага. І тут жа ўзвыў ад болю, — о-у, у-у-у...

І – прачнуўся. Убачыў перавернуты стол, у які рэзнуў нагою, і схапіўся за балючае месца...

Паважаныя чытачы! Дазвольце спыніць пераказ нашай навагодняй казкі, бо, як вы самі бачыце, герой яе прачнуўся своечасова (да прыгавора), і яму трэба зрабіць сёння шмат спраў: памірыцца з жонкай ( а мо яшчэ з кім?), даведацца, што нічога дрэннага не сталася ні з маёрам Хвацкім, ні з вышэйшым начальнікам Вайтовічам, ні з дробным начальнікам Касенькім, ні нават з беднай мадам Лабызаевай. А яшчэ нашаму герою трэба Новы год сустрэць, выпіць шкалік гарэлкі і шампанскага і шчыра пажадаць сабе прыстойнасці і хоць крыху развагі ды розуму.

Дарагія чытачы! На жаль, сённяшняе наша жыццё бывае падобным на дзіўны і нават страшны сон. Але ведайце: усе сны, у тым ліку самыя невераго́дныя, рана ці позна заканчваюцца. Дык давайце ўзнімем нашы навагоднія бакалы усе разам, дружна, і пажадаем сабе і людзям шчасця, дабрабыту і ўдачы ва ўсіх справах!

*Л. ЦАЛУЙКА.*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

